# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 40 (2286) 1 кастрычніка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

МАРЫЦЬ АБ ДАСТОЙНЫМ БУДЫНКУ

## ХТО ЁЙ ДАПАМОЖА?

Спаўняецца 70 гадоў з дня заснавання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. І здаецца, самы час задумацца, як жа жыве галоўная бібліятэка рэспублікі.

Былую «ленінку» наведваюць штодзень 2—3 тысячы чытачоў, галоўным чынам студэнты. У час сесіі, абароны дыпломаў —яшчэ больш. А бібліятэка ўжо шмат год жыве надзеямі і марамі аб новым будынку. Пра яго і пра многае іншае я гутарыла з дырэктарам бібліятэкі Галінай Алейнік. Галіна Мікалаеўна верыць, што будынак будзе, яна ўпэўнена, што сродкі знойдуцца на новую бібліятэку. Пакуль жа дырэктар лічыць, што трэба знайсці хаця б часовае памяшканне. Так яна ўспрыняла і справу з партархівам, пра якую шмат пісалі ў прэсе. Выйшлі дзве пастановы ўрада. Згодна з першай, бібліятэцы павінны былі быць перададзены 4 паверхі будынка былога партархіва. Другая пастанова адмяняла першую і пакідала за нацыянальнай бібліятэкай два паверхі. Так узнікла непрыемная сітуацыя. Галоўны архіў і бібліятэка прэтэндуюць на адзін і той жа будынак.

Галіна Алейнік кажа:

— У выніку мы атрымалі два паверхі былога партархіва. Там размяшчаем літаратуру, якая менш запытваецца чытачамі. Гэта крытэрый вельмі ўмоўны: калі кніга не заказваецца сёння, то заўтра да яе можа быць асаблівая цікавасць. Як мы будзем яе дастаўляць чытачу?

— Я чула, што бібліятэцы тэрмінова трэба было вырашыць пытанне з размяшчэннем старажытнай кнігі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ДА 100-гадовага ЮБІЛЕЮ ПІСЬМЕННІЦЫ Зоські ВЕРАС



## ЯНА БЫЛА СІМВАЛАМ

Зоська Верас была пісьменніцай, асветніцай, жывой энцыклапедыяй. Яна была сімвалам неўміручасці беларускай справы, ажыццяўляючы повязь паміж пакаленнем беларускіх адраджэнцаў пачатку стагоддзя і сённяшнімі руплівцамі на ніве нацыянальнай культуры.

Яе невялікую сціплую хатку на ўскрайку Вільні (здымак на 6-й стар.) наведвалі пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, знакамітыя і зусім маладыя беларусы, якія з вуснаў гасціннай гаспадыні чулі пра людзей і падзеі, пра якія ў той час (70—80-я гады) не пісала прэса, не расказвала тэлебачанне. Ды і сама Зоська Верас мала каму была тады вядома.

У 1980 годзе, атрымаўшы ад Новіка-Пяюна адрас Людвікі Антонаўны, я напісала ёй ліст і паслала «Голас Радзімы». Вельмі хутка атрымала адказ. «Сардэчна дзякую за прысланую газету,— пісала Зоська Верас.— Ён (Новік-Пяюн) мне часта піша і любіць успамінаць аб супрацоўніцтве ў «Заранцы». А я яму за гэта супрацоўніцтва, шчырае і бескарыснае (як і ўся тады наша праца), была і засталася вельмі ўдзячная. Доўгія гады я перахоўвала ўсе архівы «Заранкі» — шмат лістоў ад дзяцей-чытачоў, і не ведаю, як гэта ўсё ў мяне загінула ўжо ў 2-ю сусветную вайну. Тым дзіўней, што засталіся на сённяшні дзень іншыя, яшчэ даўнейшыя лісты.

Шчыра дзякую за веру ў мае магчымасці — магчымасці яшчэ нешта пісаць — і прапанову друкавацца ў газэце «Голас Радзімы». Але, ведаеце, паўтарацца не хачу, а новага нічога ў галаву не прыходзіць, ды і здароўе пры сёлетняй пагодзе штораз больш знікае... Ледзь даю рады адказваць на шматлікія лісты.

Вось калі б Вы былі ў Вільні або пажадалі прыехаць, то, калі ласка, заходзьце. Буду рада. Так складаецца, што я ў Менску не маю ніводнай знаёмай жанчыны».

(Заканчэнне на 6-й стар.).

«Паўночна-ўсходнюю Латгалію з гарадамі Дзвінск, Краслава можна лічыць беларускім заказнікам. Чысцейшых беларускіх зямель, чым Наддзвінне, я не ведаю. Тут і мова добрая, ёсць і беларускія вёскі, і людзі сябе заўсёды беларусамі адчувалі».

Гэтыя словы ўжо трапляліся чытачу «Голасу Радзімы» — у 37-м нумары газеты было надрукавана інтэрв'ю з адным з заснавальнікаў таварыства этнічных беларусаў у Латвіі «Світанак» Сяргеем Кузняцовым, які менавіта такой думкі пра беларускае Наддзвінне ў Латвіі.

Сапраўды, Дзвіншчына, Краслаўшчына і некаторыя іншыя тэрыторыі, якія прылягаюць да іх,— «беларускі заказнік». Адтуль паходзяць Канстанцін Езавітаў і Сяргей Сахараў, там сляды асветніцкай дзейнасці Паўліны Мядзёлкі.

Тэмай беларускай прысутнасці ў Латвіі даўно і плённа займаецца Сяргей Панізьнік — паэт, публіцыст, даследчык. Гэта ён адкрыў нам літаратурнае імя — Віктар Вальтар, «Роджаныя пад Сатурнам» якога ўпершыню пабачылі свет на старонках нашай газеты. Сёння пачынаем новую публікацыю, падрыхтаваную Сяргеем ПАНІЗЬНІКАМ,—успаміны пра беларускае жыццё ў даваеннай Латвіі Эміліі Казак-Казакевіч «Мой жыццяпіс».

ПІСЬМЕННІК З ЗША



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыняў вядомага амерыканскага пісьменніка, кіраўніка амерыканскага ПЭН-клуба — элітнага літаратурнага аб'яднання — Нормана Мейлера. Норман Мейлер — аўтар больш чым 20 кніг, перакладзеных на многія мовы свету. У Беларусь яго прывялі цікавасць да падзей, што адбываюцца ў нашай рэспубліцы, жаданне сабраць матэрыял для сваіх будучых твораў.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.

ЗРАЗУМЕЦЬ НАС

## ДЖЭК МЭТЛАК У МІНСКУ

Джэк Мэтлак, былы пасол ЗША ў былым СССР, прыбыў з жонкай у Мінск. Галоўная мэта яго прыезду, як заявіў госць, — гэта правесці інтэрв'ю з выпадку новай кнігі, якую Мэтлак піша пра распад Савецкага Саюза. Асабліва пра яго апошнія, 1990 і 1991 гады. «Я хацеў бы лепш зразумець тыя працэсы, якія адбыліся тут, на Беларусі. Ну, а другая прычына ў тым, што я хацеў бы ўбачыць новую Беларусь. Бо калі мы жылі ў Маскве, мы бывалі тут, а цяпер хацелася б адчуць сённяшнюю краіну»,—сказаў Джэк Мэтлак.

УЗНАГАРОДЫ

## МЕДАЛЬ Ф. СКАРЫНЫ М. ТАНКУ І П. ПАНЧАНКУ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пісьменнікі Пімен Панчанка, Яўген Скурко (Максім Танк) узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Як абвяшчае Указ, Пімен Панчанка, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў, і Максім Танк, які адзначыў у верасні сваё 80-годдзе, удастоены высокай нацыянальнай узнагароды за вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа.

АМАЛЬ СЕНСАЦЫЯ

## КАРТА АНАМАЛЬНЫХ ЗОН

Унікальную карту анамальных зон рэспублікі і месцаў, дзе зафіксаваны кантакты нашых землякоў з прышэльцамі з космасу (а такой яшчэ няма ні ў адной дзяржаве свету), убачаць хутка жыхары Беларусі. Над яе стварэннем працуюць цяпер геафізікі і псіхолагі сталіцы. На карту будуць нанесены не толькі ўчасткі, небяспечныя з пункту гледжання геафізікі, але і тыя збудаванні, разбурэнне якіх магчыма пад уздзеяннем анамальных з'яў. Акрамя таго, вучоныя даследуюць уплыў гэтых месцаў на здароўе чалавека. Гэта, у першую чаргу, месцы тэктанічных разломаў зямлі. Да іх адносяцца Полацкая анамальная зона (Браслаў—Полацк), зона паміж Слуцкам і Рэчыцай, Кобрын — Івацэвічы, Столін — Беразіно — Мсціслаў і Беразіно — Новалукомль — Обаль.

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## КНІГІ ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН праводзіць дабрачынную акцыю «Беларусь без межаў». Сутнасць яе—у бясплатным размеркаванні каля трох тысяч асобнікаў кніг на беларускай мове, падараваных нашай рэспубліцы беларускай дыяспарай Германіі. А менавіта—Юрыем Сянькоўскім, у недалёкім мінулым дырэктарам Беларускай службы радыёстанцыі «Свабода», і Паўлам Урбанам, гісторыкам, супрацоўнікам «Свабоды».

Гэтыя кнігі былі выпушчаны выдавецтвам «Бацькаўшчына», якое дзейнічала ў Мюнхене (ФРГ) у 50—60-я гады пры аднайменнай газеце.

Па сутнасці, гэты падарунак — цэлая бібліятэка беларускай патрыятычнай літаратуры. У яе ўваходзяць і творы шырокавядомых у нас у рэспубліцы аўтараў — Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа і малавядомых нашым чытачам Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна, Юркі Віцьбіча, Андрэя Мрыя, Рыгора Крушыны, Лукаша Калюгі.... Жадаючыя бясплатна атрымаць іх могуць прыслаць заяўкі ў Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН.

ЗАМАХ НА СВЯТАРА

## ХТО ЗВОДЗІЦЬ РАХУНКІ?

У ноч на 17 верасня адбыўся замах на святара Жодзінскай праваслаўнай царквы айца Аляксія Шынкевіча. Гэтая падзея скаланула не толькі яго прыхаджан, але і ўсю грамадскасць рэспублікі.

Апошнім часам айцец Аляксій стаў амаль самым папулярным чалавекам у Жодзіне. Але, здаецца, некаму прыйшлася не даспадобы яго дзейнасць па добраўпарадкаванню мясцовай царквы, па апецы над выхаванцамі гарадскога прытулку, дапамозе адзінокім, бедным і цяжкахворым, таму што ўсё часцей гучалі ў яго доме тэлефонныя званкі з пагрозамі. Позна вечарам, калі святар вярнуўся дамоў пасля прэс-канферэнцыі ў Мінскай епархіі, нехта пазваніў у дзверы, і жаночы голас папрасіў аб дапамозе. Пасля таго, як айцец Аляксій адчыніў дзверы, бандыты накінуліся на яго і пачалі біць. Зараз ён знаходзіцца ў шпіталі, і, хаця адчувае сябе лепш, медыкі забаранілі яму ўставаць на працягу двух тыдняў. Малітвы аб яго хутчэйшым выздараўленні былі прачытаны ва ўсіх праваслаўных храмах Беларусі.

*«Мне здаецца, што сам працэс яднання беларусаў павінен ісці па палітычнай лініі. Не трэба зводзіць пачуццё дзяржаўнасці да культуры і мовы, бо так будзем выстаўляць сябе на небяспеку югаславізацыі Беларусі. А мы павінны ад гэтага любой цаной ухіліцца, не дапусціць такога павароту падзей. І таму я думаю, што гэтая канцэпцыя дзяржавы, палітычнай лаяльнасці рэспубліцы, — яе трэба было б замацоўваць, далучаць да акцэнту мовы і культуры акцэнт дзяржаўны.*

*Пры распрацоўцы канцэпцыі дзяржаўнасці Беларусі трэба базіравацца, можа, не столькі на культурных асновах, колькі на палітычных пачуццях, на выпрацоўцы лаяльнасці да самой дзяржавы. І знайсці формулу, каб у гэтай дзяржаве ўсе этнічныя групы суіснавалі ў згодзе, мірна. Можа, гэта і будзе місія Беларусі — паказаць усяму чалавецтву на ўласным прыкладзе, як трэба ставіцца да людзей іншай мовы, іншай веры, іншай нацыянальнасці, іншых этнічных ці філасофскіх перакананняў. Талерантнасць, якая закладзена ў нас самой гісторыяй, можа прыдацца да выканання такой гуманнай місіі. Такім чынам пачуццё этнічнага беларуса будзе заменена пачуццём палітычнага беларуса, якое будзе ўключаць у сябе і этнічнасць, і культуру, і адначасова быць з пункту гледжання палітычнай культуры на вышэйшым узроўні».*

*Янка ЗАПРУДНІК.*

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ВЯРТАЮЦЦА У БЕЛАСТОК

Праваслаўным вернікам Беластока перададзены святыя мошчы дзіцяці-мучаніка Гаўрыіла Беластоцкага, якія да апошняга часу захоўваліся ў гродзенскім Свята-Пакроўскім саборы.

Паводле падання, ён нарадзіўся і жыў у мястэчку Заблудава, што недалёка ад Беластока, дзе і прыняў пакутніцкую смерць за праваслаўную веру. Пасля вайны яго мошчы аказаліся ў Гродне. І вось цяпер яны з ушанаваннямі будуць захоўвацца на радзіме, у праваслаўным храме Беластока.

Рашэнне аб гэтым было прынята ў час нядаўняга візіту ў Польшчу ў складзе дэлегацыі Вярхоўнага Савета Беларусі мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

ПЕРШЫ СТЫПЕНДЫЯТ

## ІМЯ УЛАДЗІСЛАВА ГАЛУБКА

Беларускі фонд культуры ўстанавіў стыпендыю імя Уладзіслава Галубка — у гонар 110-годдзя з дня нараджэння першага народнага артыста рэспублікі, пісьменніка, рэжысёра, мастака, аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага тэатра.

Названы і першы ўладальнік гэтай штомесячнай тысячарублёвай стыпендыі. Ім стаў артыст Краснапольскага раённага Дома культуры Юрый Мотрычаў, на рахунку якога ролі ў пятнаццаці сыграных спектаклях. Юрый Аляксандравіч не толькі выдатны акцёр, ён змог здабыць поспех у землякоў і як добры спявак, танцор, выканаўца на музычных інструментах.

ЗВАРОТ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## ФЕДЭРАЦЫЯ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН АРГЕНЦІНЫ НА РАЗДАРОЖЖЫ

Нядаўна ў Мінску знаходзіліся прадстаўнікі нашых суайчыннікаў з Федэрацыі савецкіх грамадзян Аргенціны — член праўлення клуба імя М. Астроўскага Сцяпан Шаўчук і актывіст гэтай арганізацыі Павел Шаўчук. Разам з першым намеснікам старшыні праўлення таварыства «Радзіма» госці былі прыняты намеснікам старшыні Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета Беларусі Міхаілам Жэбракам.

У час працяглай размовы і абмену думкамі пасланцы з Аргенціны расказалі аб той няпростай, па іх меркаванню, сітуацыі, у якой апынулася федэрацыя. Справа ў тым, што ў яе склад з даўніх часоў уваходзяць беларусы, украінцы і ў меншай ступені расейцы. Вельмі многія з іх маюць савецкае грамадзянства. Цяпер жа з распадам СССР паўстала пытанне аб далейшым існаванні арганізацыі, яе статусе. Што рабіць? Большасць, як расказалі госці, не хоча «раздзяляцца» пасля стольких гадоў сумеснага жыцця і дзейнасці.

Сцяпан і Павел Шаўчукі выказалі вялікую заклапочанасць падзеямі, якія разгортваюцца на тэрыторыі былога СССР, і перадалі народнаму дэпутату Беларусі Зварот аргенцінскіх суайчыннікаў да Вярхоўных Саветаў Расійскай Федэрацыі, Украіны і Рэспублікі Беларусь.

Сярод іншага ў звароце гаворыцца:

«...Абшчына савецкіх грамадзян у Аргенціне выказвае пажаданне, каб не была перарвана гісторыя добрых адносін паміж трыма народамі, і выказвае сваю гатоўнасць падтрымліваць сувязі з рознымі падраздзяленнямі парламентаў, якія ажыццяўляюць кантакты з суайчыннікамі за мяжой. А таксама ладзіць абмен дэлегацыямі прадстаўнікоў культурнай, мастацкай, педагагічнай і іншых відаў дзейнасці. Такім чынам мы разлічваем, як і да гэтае пары, прадстаўляць у Аргенціне культуру трох нашых народаў.

Хай мір і дружба заўжды пануюць сярод рускага, украінскага і беларускага народаў!

Буэнас-Айрэс, 10 мая 1992 года. Федэрацыя клубаў савецкіх грамадзян Аргенціны».

М. Жэбрак падзякаваў гасцям за ўвагу да нашых праблем і паабяцаў давесці тэкст звароту да народных дэпутатаў.

ПАМЯЦЬ



Цярновы вянок і шасціканцовая зорка Давіда на абеліску. А побач — мармуровая пліта з 1946 імёнамі загінуўшых. Так выглядае пасля рэканструкцыі помнік ахвярам Лахвенскага гета ў Лунінецкім раёне.

...Адбылося гэта ў верасні 1942 года. Фашысты пачалі аперацыю па знішчэнню вязняў. І, здавалася, прадугледзелі ў ёй усё. Загадзя былі выкапаны ямы, да якіх строем павінны былі весці ахвяр каля 500 карнікаў. Першы рад людзей меркавалася расстраляць у спіну, а астатнія павінны былі самі па парадку класціся ў ім на трупы. Не забыліся нават выдаць карнікам для храбрасці шнапс. Вось толькі мужнасці і рашучасці тых, каго адпраўлялі на смерць, фашысты не прадугледзелі. Вязні гета разумелі безнадзейнасць супраціўлення і ўсё ж пачалі бой з карнікамі. У той дзень амаль шэсцьсот чалавек набылі свабоду. А паўстанне ў Лахвенскім гета стала сімвалам нацыянальнага супраціўлення.

НА ЗДЫМКУ: помнік загінуўшым у час паўстання ў Лахвенскім гета.

*РЭПАРТАЖ З «КАМУНАРА»*

# III. НА ГЭТАЙ ВЕЧНАЙ ЗЯМЛІ

У той дзень, калі намеснік старшыні калгаса Дзмітрый Федаровіч вёз нас да жывёлагадоўчага комплексу па Любчанскай шашы, мне здалося, што насупраць вёскі Вераб'евічы чагосьці не хапае. А не хапала ўсяго аднаго дрэва—явара. Але якога!

Казалі старыя людзі, што па ўзросту ён уступае хіба толькі дубу ў Белавежскай пушчы, а па таўшчыні перавышае яго. Старажылы сцвярджалі, што пад гэтым яварам у 1812 годзе адпачываў Напалеон.

Легенда?.. Не скажыце. У 1962 годзе вядомы гісторык з Навагрудчыны Мікалай Вінер паказваў мне невялікую кніжачку на польскай мове, у якой расказваецца пра нашэсце французаў. Там і даецца апісанне кароткага адпачынку Напалеона пад згаданым яварам.

Дрэва служыла паштовай скрынкай падпольшчыкам у часы акупацыі Заходняй Беларусі польскімі панамі. У дупло явара хавалі пракламацыі, іншую забароненую літаратуру. Карысталіся гэтай поштай і партызаны ў Вялікую Айчынную вайну.

Зараз дрэва спілавалі: яно стала небяспекай для транспарту, што рухаецца па шашы. І ніхто з нашчадкаў не даведаецца, якую ролю яно адыгрывала ў гісторыі краю. Можна было б на месцы явара паставіць нейкі знак або скульптуру з памятным надпісам. Эт, каму да гэтага справа!



Праўда, знаходзяцца ўсё ж людзі, неабыякавыя да родных мясцін. Адзін з іх—Пётр Сільвановіч.

...Жыў-быў у вёсцы Асташына хлопчык. Нічым не вылучаўся сярод сваіх сяброў. Рос гарэзлівым, жыццярадасным: і ў чужы сад залезе, і ў футбол згуляе. Хіба што сваёй смеласцю здзіўляў усіх. Здаралася, ускараскаецца на воданапорную вежу, на краі яе на руках стане ўніз галавой—ажно жах усіх ахоплівае.

І рашылі людзі: быць Пятру (так звалі хлопчыка) цыркавым артыстам. А ён скончыў школу, некуды знік надоўга. Потым з'явіўся ў вёсцы, стаў абіваць парогі раённых інстанцый, праўлення калгаса «Камунар»: «Аддайце старыя сажалкі, дапамажыце тэхнікай—хачу зону адпачынку пабудаваць».

Здаўна ля старога млына былі сажалкі. Напаўняліся яны самацёкам вадой з рэчкі Валаўкі. За панскім часам тут на прыгожых чоўнах плавалі панскія дзеці, кармілі булкамі рыбу. А сялянскія дзеці плавалі ў цэбрах ды начоўках, зайздросцілі панічам.

У трыццаць дзевятым паноў не стала. Мала-памалу сажалкі зараслі цінай і мохам, вада перастала паступаць з ракі. І толькі ў больш позні, савецкі час адзін з кіраўнікоў «Камунара» аднавіў сажалкі. На жаль, ненадоўга. Новаму кіраўніцтву гаспадаркі было і не да рыбы, і не да зоны адпачынку.

...Аб Пятру Сільвановічу загаварылі ва ўсёй акрузе. Казалі людзі: «З'явіўся ў Асташыне мільянер. То за добрыя грошы да сябе работніка найме, якіх той і за некалькі гадоў у калгасе не зробіць, то чыйсьці дом у вёсцы адкупіць, то больш ста тысяч на аднаўленне згарэўшай царквы аддасць.

Прыгнаў на бераг Валаўкі бульдозеры, трактары. Пабудаваў праз рэчку мост, ачысціў старое рэчышча, сажалкі, пабудаваў новыя, запусціў малькоў. Ля Валаўкі ўзвёў танцпляцоўку для моладзі, а на Купалле свята калгаса наладзіў: з гульнямі, старымі абрадамі, буфетам. На гэтым свяце старыя людзі нават плакалі. Усё ніяк не давалі веры, што хоць штосьці з іх былога юнацтва вярнулася.



...Выпаў час сустрэцца з Пятром—сябрам дзяцінства. Сядзелі ля сажалак, і я слухаў яго расказ:

— Апошнія гады я працую ў кааператыве ў Мурманскай вобласці. Справы ідуць у нас добра. Калі з'явіліся грошы, сталі думаць не толькі аб рабоце, але і аб адпачынку. Тым больш, што ў Мурманскай вобласці клімат суровы.

Як бы я ні быў далёка ад радзімы, заўжды думаў аб ёй. Марыў вярнуцца сюды. І таму зону адпачынку прапанаваў пабудаваць тут.

— Чакай, Пётр,—вырашыў я ўдакладніць.—Вось ты аднавіў сажалкі, пабудаваў новыя, хутка закончыш перабудову старога млына пад Дом рыбака, набудзеш яшчэ некалькі дамоў пад гасцініцы—але ж гэта для членаў вашага кааператыва. А якая выгада будзе камунараўцам?

Пётр паказаў рукой на сажалкі.

— А ты добра прыгледзься, хто купаецца ў іх, хто сядзіць з вудамі там. Гэта ж сыны і ўнукі нашых асташынцаў, загорцаў... Ды і ў вольную часіну самі калгаснікі заўжды змогуць адпачыць тут. Хіба ж не прыходзіць мясцовая моладзь па вечарах сюды на танцы? Яны тут гаспадары, а не члены кааператыва з Мурманскай вобласці.



Дарэчы, уся зона адпачынку поўнасцю пяройдзе ў калгаснае карыстанне гадоў праз дзесяць. Хіба не выгадна гаспадарцы?!

Чатыры мільёны рублёў затраціў ужо кааператыў на ўзвядзенне зоны адпачынку. Такіх сродкаў не знайшлося б у «Камунара» для гэтай мэты, напэўна, ніколі.

— Мая мара,—дзеліцца планамі Сільвановіч,—застацца ў роднай вёсцы, падтрымліваць належны парадак у гэтай зоне. Але не ўсё атрымліваецца. Кожная справа патрабуе пэўных затрат. Сёння я маю грошы, а заўтра іх не будзе. Таму хацеў бы стаць фермерам. Прашу ўсяго пяць гектараў зямлі. Праўленне, сход калгаснікаў з разуменнем ставяцца да гэтага. А вось райвыканком—супраць. Знаходзіць сотні прычын, каб не даць зямлю.



На жаль, новае і тут, у адной з лепшых гаспадарак раёна, марудна і цяжка прабівае сабе дарогу. Іншы раз пакідае ў нашай душы і сорам, і боль, і трывогу.

У пачатку пяцідзесятых гадоў у адрэстаўрыраваным панскім маёнтку адкрылася Асташынская школа. На яе адкрыццё прыехаў наш суайчыннік з-за мяжы Вайтовіч. І тады ён прачытаў нам, вучням, ледзь не лекцыю пра школьны будынак: ён унікальны па сваёй архітэктуры, тут адбываліся важныя падзеі ў гады першай сусветнай, грамадзянскай войнаў і ў гады белапольскай акупацыі, валодалі былым маёнткам выдатныя людзі, сярод якіх выдзяляўся добра вядомы сваёй адукацыяй паэт Ян Чачот. Пазней школу наведаў Якуб Колас.

І вось цяпер маіх землякоў хвалюе лёс і самой школы, і зялёнага парку вакол яе, дзе ёсць рэдкія віды дрэў. Справа ў тым, што непадалёку ад праўлення калгаса ёсць дзесяцігодка. У ёй зараз хапае класаў, каб умясціць усіх дзяцей з навакольных вёсак, ёсць інтэрнат. А ў Асташынскай жа школе займаецца сёння менш... дзесяці дзяцей. Затое выкладчыкаў (ці не парадокс гэта?!) тут удвая больш.

Зразумела, у хуткім часе школа ліквідуецца. І хвалюе маіх землякоў пытанне, што будзе з будынкам. Добра, калі ён стане домам састарэлых ці музеем. Пакуль жа мы можам толькі меркаваць аб лёсе такой дарагой маім землякам мясціны.

А яшчэ больш хвалюе само жыццё. У апошні дзень камандзіроўкі яшчэ раз прайшліся па вёсцы Асташына. На кожным кроку трапляліся знаёмыя, якія хацелі пачуць ад нас, жыхароў сталіцы, абнадзейваючыя весткі: калі спыніцца рост цэнаў, ці будзе прымаць ад сялян жывёлу дзяржава, наколькі павялічацца пенсіі калгаснікам. Пытанняў шмат, а адказаў мала. Бо ніхто, нават сам кіраўнік рэспублікі, не змог бы сказаць нічога канкрэтнага.

А той-сёй з калгаснікаў гаварыў, што сын ці дачка маюць намер вярнуцца з сем'ямі жыць дадому. Асабліва тыя, хто знаходзіцца зараз у іншых дзяржавах СНД. У гэтым нам бачылася і надзея, і трывога. У калгасных вёсках нямала пакінутых хацін. На першым часе дах над галавой знойдзецца. Потым калгас пабудуе і катэдж. Але ўзнікне праблема з працаўладкаваннем. Ці не абыдуцца так няласкава з тымі, хто, як Пётр Сільвановіч, захоча стаць фермерам?..

Але на тое яно і жыццё, каб ставіць пытанні, загадваць загадкі на гэтай вечнай зямлі.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: усяго на два месяцы летам прыязджаюць у Асташына да Веры ВЕЕЎНІК унукі. Але і гэтага часу хапае пенсіянерцы, каб адчуць сябе шчаслівай...; Мікалай ДУДКО працуе даглядчыкам рыбы на сажалках; Асташынская школа. Што чакае гэты будынак у будучыні?..**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## З РОДУ РАДЗІВІЛАЎ

# АРЫСТАКРАТЫЯ ВЯРТАЕЦЦА ДА СВАІХ КАРАНЁЎ

17 верасня ў Беларускім Доме дружбы адбыўся прыём і прэс-канферэнцыя з нагоды знаходжання на Беларусі нашчадка слыннага магнацкага роду, вытокі якога бяруць пачатак у сівой даўніне, культуры і гісторыі беларускага і літоўскага народаў, дачкі апошняга ардыната нясвіжскага Альбрыхта Радзівіла — Альжбеты Тамашэўскай, якая прыехала разам з мужам Янам Тамашэўскім. (Днямі раней госці з Англіі наведалі гістарычны музей у Мінску, у Навагрудку прысутнічалі на адкрыцці помніка Адаму Міцкевічу. Здзейснілі захапляючае падарожжа ў Нясвіж, дзе княгіня Альжбета пакланілася магіле бацькі, пахаванага ў склепе свайго Нясвіжскага палаца ў 1936 годзе). Перад прэс-канферэнцыяй і пасля невялікай уступна-пратакольнай часткі са словамі прывітання і тлумачэння выступіў Адам Мальдзіс, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, якая і запрасіла сужонства Тамашэўскіх на Беларусь. Ён падкрэсліў:



— Гэты прыезд гасцей сведчыць аб тым, што арыстакратыя, як і ўсе мы, вяртаецца да сваіх каранёў. Візіт быў інспіраваны прадстаўніком яшчэ адной арыстакратычнай фаміліі А. Цеханавецкім і без ягоных намаганняў наўрад ці спраўдзіўся б.

Прамоўца заўважыў таксама, што прыезд спадарыні Тамашэўскай мае вялікае значэнне. Нясвіжскі палац Радзівілаў захаваўся таму, што ў ім месціўся прэстыжны санаторый. Цяпер жа стаіць высакародная мэта дамагчыся для палаца статуса Міжнароднага архітэктурнага помніка нулявога (найвышэйшага) класа пад эгідай ЮНЕСКА. На думку прамоўцы, гэтаму будзе спрыяць выданне альбомаў пра Нясвіж і серыі календароў «Магнаты Беларусі» і тыя два фільмы, прысвечаныя гораду і Радзівілам, што здымаюцца на кінастудыі і тэлебачанні.

Ёсць і іншы, вельмі важны момант. У 1939 годзе ўсе мастацкія зборы былі перавезены з замка ў Мінск. У 1941 частка пераносіцца ў Маскву, пасля вайны вяртаецца, і ў 1950 годзе 89 палотнаў Нясвіжскай карціннай галерэі былі патаемна падараваны Беруту, тагдышняму прэзідэнту Польскай Рэспублікі. Княгіня Альжбета прывезла два альбомы даваенных фотаздымкаў інтэр'ера палаца, якія і з'яўляюцца яскравым доказам таго, што гэтыя палотны з Нясвіжскага замка і могуць паслужыць добрым дапаможнікам-гідам для рэстаўратараў.

Госця, грунтуючыся на сямейнай легендзе, пацвердзіла тое сумненне, што сямейны скарб Радзівілаў наўрад ці мог быць вывезены ў Мірскі замак перад прыходам войска Напалеона і там схаваны пад узарванай дзеля гэтага вежай, як гэта сцвярджаецца апошнім часам. Больш падстаў маецца думаць, што скарб, магчыма, ляжыць пад Нясвіжскім возерам.

Адказваючы на пытанні журналістаў і прысутных, Альжбета Тамашэўская перш-наперш падзякавала за магчымасць наведаць Беларусь.

— Самае вялікае ўражанне, якое я атрымала ў час наведання, — чалавечнасць беларусаў, — узрушана сказала госця. — І, грунтуючыся на гэтым, яны змогуць збудаваць сваю будучыню.

Спадарыня Тамашэўская адзначыла, што прыкладзе ўсе намаганні, каб крыху адрамантаваць замак. І гэта не можа не цешыць. Тым больш, калі да такой высновы прыйдуць і іншыя прадстаўнікі гэтага ці другога знакамітых родаў. Будзем рэалістамі: пры дыктаце сённяшняга крызісу, нацыянальнага нігілізму і забыцця адрадзіць, даць новае жыццё амаль што страчанай спадчыне толькі ўласнымі сіламі Бацькаўшчыны будзе занадта цяжка.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Альжбета ТАМАШЭЎСКАЯ (трэцяя справа) у час прэс-канферэнцыі.**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ МАРЫЦЬ АБ ДАСТОЙНЫМ БУДЫНКУ

# *ХТО ЁЙ ДАПАМОЖА?*

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Так. Аднак перамяшчаць яе ў іншы будынак, не прыстасаваны для захавання кніг, недарэчна. Можна нанесці шкоду, бо зразумела, што старажытныя выданні патрабуюць асобых умоў захавання. Кнігу нельга перамяшчаць з аднаго будынка ў другі па кожнаму запатрабаванню чытача. Так што старажытная кніга засталася ў ранейшых сховішчах бібліятэкі.

— А там, як вядома, цесна...

— Гэта даволі мякка сказана. Канешне, для літаратуры, пра якую мы гаварылі, умовы створаны. Аднак іншыя выданні пакутуюць страшэнна. Бібліятэка захоўвае свае кнігі ў падвале Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, у падвале аднаго жылога дома. Кнігі захоўваюцца ў падсобных памяшканнях на тэрыторыі бібліятэкі. Часта ў такіх імправізаваных кнігасховішчах вільготнасць такая ж, як і на двары. Змена тэмператур не спрыяе нармальнаму захаванню кніг таксама, і яны псуюцца. Супрацоўнікі аддзела гігіены і рэстаўрацыі, канешне, выкарыстоўваюць любую магчымасць, каб дапамагчы кнігам — прасушваюць іх, рамантуюць, аднак не ўсё ў іх сілах, на жаль.

— А як справы ў аддзеле беларускай кнігі?

— І ў сэнсе памяшкання, і ў сэнсе фондаў становішча цяжкае. Месца там настолькі не хапае, што папкі з газетамі ляжаць на падлозе. Фонд беларускай літаратуры быў амаль знішчаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер ён патрабуе даўкамплектавання. Мы шукаем шляхі для набыцця беларускіх выданняў у Расіі (там іх засталося намнога больш, чым у нас), у іншых краінах. Канешне, пра арыгіналы гаварыць не даводзіцца, аднак ксеракопіі, мікрафільмы мы стараемся набываць. Калі мы не будзем мець літаратуры па гісторыі, мастацтву Беларусі і адпаведна не будзем чытаць яе, нашы размовы пра незалежнасць і ўздым нацыянальнай культуры застануцца толькі размовамі. А калі мы ўсё ж такі набудзем яе, то дзе яе захоўваць — у чужых падвалах?

І тым не менш бібліятэка развіваецца. Штогод яе фонды папаўняюцца на 200 тысяч адзінак выданняў, нягледзячы на тое, што многія сувязі паміж бібліятэкай і выдавецтвамі, кніжнымі палатамі парушаны. Да 2000 года фонд нацыянальнай бібліятэкі складзе каля 7 мільёнаў выданняў. Бібліятэцы па норме патрэбна плошча 38,5 тысячы квадратых метраў пад кнігасховішча. Яна ж мае толькі 12 тысяч квадратных метраў.

Адным з доказаў крытычнага становішча з будынкам бібліятэкі з'явілася нечакана для чытачоў апячатанае кнігасховішча. Адбылося гэта ў сакавіку. Пажарная ахова пастанавіла прыпыніць «рабочы аб'ект» і забараніла эксплуатацыю будынка. Некалькі дзён кнігасховішча не працавала. Потым яго эксплуатацыю дазволілі да 1 чэрвеня. За гэты час працаўнікі бібліятэкі павінны былі вывезці лішнія кнігі, каб колькасць іх адпавядала норме.

Акрамя перавозак кніг, бібліятэка рамантуецца. Рамонт невялікі, касметычны. Капітальны рамонт у бібліятэцы не рабіўся ніколі. Усё гэта прымушае зноў і зноў вяртацца да мар пра новую бібліятэку, якая яшчэ не будуецца нават.

— Падрыхтаваны эскізны праект бібліятэкі, — гаворыць Галіна Алейнік, — аднак яшчэ не вырашана пытанне фінансавання будоўлі. Бібліятэцы патрэбна спецыяльнае абсталяванне для тэхнічнай сувязі з чытачом, спецыяльныя ліфты. На гэта патрэбна яшчэ і валюта, а яе ў краіны для бібліятэкі няма. Нам адмаўляюць нават у фінансаванні падпіскі на замежныя выданні, кнігі.

— Але ж выйсце павінна быць...

— Мы і шукаем яго. Будзем рабіць спробу зарабіць грошы самі. Ёсць некаторыя задумы.

Добра, што бібліятэка знаходзіць рашэнне сваіх праблем сама. Аднак не трэба забываць, што гэта нацыянальная бібліятэка. І справа дзяржавы клапаціцца пра яе. Вельмі хацелася б, каб знайшліся людзі і ў краіне, і за мяжой, неабыякавыя да лёсу бібліятэкі, якія ў стане дапамагчы ёй.

Дырэктар бібліятэкі шукае шляхі для яе нармальнай працы. Аднак гэта нялёгка. Яна спачувае жанчынам, што працуюць у кнігасховішчах і робяць усё ўручную. За дзень яны пераносяць сотні кілаграмаў кніг.

— За апошнія гады мы набылі 30 камп'ютэраў. І гэта сапраўдная перамога. Тут, у бібліятэцы, вучылі жанчын працаваць на іх. Раней усе падлікі рабілі на драўляных лічыльніках. У бібліятэцы састаўляецца электронны каталог. У першую чаргу мы хацелі б занесці ў камп'ютэр бібліяграфію беларускай кнігі.

Апошнім маім пытаннем да дырэктара бібліятэкі было:

— Як бібліятэка збіраецца святкаваць свой юбілей?

— Асаблівых урачыстасцей праводзіць не будзем. 21—23 кастрычніка адбудзецца навукова - практычная канферэнцыя «Нацыянальная бібліятэка і грамадства». На яе запросім гасцей з краін СНД, Балтыі.

Стаўленне да бібліятэк ілюструе інтэлектуальную вышыню нацыі. Бібліятэка — патэнцыял навукі, культуры, мастацтва. Вядома, што зараз не самыя спрыяльныя часы для будаўніцтва. Аднак гаворка ідзе не проста пра будынак, а пра нацыянальную бібліятэку Беларусі.

Супрацоўнікі бібліятэкі мараць бачыць «ленінку» на ўзроўні лепшых сусветных бібліятэк. Беларусам жа прадастаўлена вырашаць, ці ёсць у іх нацыі патрэбнасць у гэтым. Калі не, то можна спакойна жыць. Клапаціцца няма пра што.

**Алена СПАСЮК.**



**Беларуская зала Нацыянальнай бібліятэкі.**

*З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ*

# «СЬВЯТЫ БЫЎ ЧАС...»

**Быў час, калі жыццё кіпела,**
**і пачуццё ўзносіла ўсіх нас.**
**Было духовае задавальненне,**
**Сьвяты быў час.**

**Але прайшлі хвіліны залатыя,**
**прайшла краса майго жыцця.**
**І засталіся толькі ўспаміны —**
**Жыцця працяг.**

Гэтымі шчырымі радкамі калісьці падзялілася са мною Эмілія Данатаўна Казак-Казакевіч, калі я наведаў яе на пачатку 80-х гадоў у латгальскім мястэчку Індра на Краслаўшчыне, непадалёк беларуска-латвійскай граніцы. Дачка вядомага фалькларыста С. П. Сахарава Ірына Сяргееўна перадала мне ў Рызе адрас сваёй даўняй сяброўкі. І вось я ў сціплым пакойчыку былой беларускай адраджэнкі, былой настаўніцы Эміліі Данатаўны. Каля пяці гадоў доўжылася наша знаёмства. І кожны раз я вяртаўся з Індры пабагацелым на новыя веды пра жыццё беларусаў у Латвіі— даваеннай і пасляваеннай.

Беларуская прысутнасць у Латвіі—гэта цэлы пласт культурнага жыцця крывічоў-балткрэваў, пракаветных насельнікаў латгальскай зямлі. Яна нарадзіла многа таленавітых людзей. Пра некаторых з іх «Голас Радзімы» ўжо паведамляў пад спецыяльнай рубрыкай «З беларускага Наддзвіння ў Латвіі». Сёння прыйшла чарга адкрыць чытачам яшчэ адно невядомае імя—Эмілія Казак-Казакевіч. Так, яна педагог, так, яна актыўны дзеяч беларускага адраджэння ў Латвіі. Але ж яна і уніклівы перакладчык. А самае галоўнае—Эмілія Данатаўна сабрала сярод латгальскіх беларусаў багатую вярэньку фальклору.

У маім архіве захоўваецца мой жа канверт, вернуты індраўскай поштаю, з паметкаю: «Причина невручения: адресат умерла 9.05.1989 г.» А 10 траўня быў маім днём нараджэння. І мае наступныя дні нібы сталі пераемнікамі яе «хвілін залатых», «красы жыцця»...

«І засталіся толькі ўспаміны...»,— пісала Эмілія Данатаўна. Не толькі! Яе жыццёвы падзвіг—узор, прыклад для спадкаемцаў. Бо яны, нашы папярэднікі, жылі, працавалі, пакутавалі, адраджалі сябе і другіх не дарма: іх энергетычным полем карыстаемся сёння і мы.

Учытаемся са схіленай галавою ў маркотна-радасныя радкі жыццяпісу чалавека, найпершай турботай якога было—захаванне беларускасці.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

**Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ**



ПЕРШ за ўсё хачу сказаць некалькі слоў пра сваіх бацькоў. Мой бацька Данат Міхайлавіч нарадзіўся ў Дрысенскім павеце Віцебскай губерні ў вёсцы Жагулі[1] ў 1869 годзе. Ажаніўся ён у 1895 годзе. Жонка яго была з засценка Трэці Савенец, які знаходзіўся ў адлегласці дзвюх вёрст ад станцыі Бальбінова (Індра).

Жывучы ў Жагулях, бацька быў актыўным барацьбітом у змаганні супраць царскай улады і паноў. Вяскоўцы пад кіраўніцтвам бацькі падымалі бунты, ганялі кароў у панскі лес на паству, пілілі дровы ў панскім лесе. За ўсё гэта ў 1905 годзе бацьку арыштавалі. Калі прыехалі жандары яго забіраць, то ён разам з жонкай залез на гарышча і не дапускаў жандараў да сябе, спадзеючыся на дапамогу сялян сваёй вёскі. Адзін з жандараў за супраціўленне выстраліў у бацьку і цяжка параніў яго. Маці ў роспачы кінула навоем ад кроснаў у жандараў. Параненага бацьку арыштавалі і адвезлі ў Дрысенскі вастрог. Праз якога паўгода, калі зажылі раны, бацьку выслалі ў Архангельск. Пабываў ён у Халмагорах і Дзянісаўцы. Пабачыў родны кут Ламаносава.

Маці засталася адна з двума малалетнімі дзецьмі. Цяжка ёй жылося з малымі дзецьмі, тым больш, што і яна была пад наглядам жандараў і часта павінна была хадзіць у Дрысу на праверку.

Пасля астрога і высылкі, праз пяць гадоў, бацька вярнуўся ў сваю сям'ю. У скорасці мы пераехалі жыць у вёску Другое Чорнае, за два кіламетры ад Бальбінова, дзе арандавалі зямлю. У гэтай вёсцы ў 1911 годзе нарадзілася і я.

Наўкола Бальбінова было многа маёнткаў паноў. Мацейкі, Савейкі і Каркліназа належалі пану Зайкоўскаму. Маркі і Кульбова — пані Мілаш, Дамнаполе — Краўзэ.

Бальбінова было самым вялікім і самым прыгожым маёнткам. У яго састаў уваходзілі Ізава, Вайцюлева, Смілгава, Гейданы, Гарадзішчы і Краўчонкі. Усё гэта належала пану Нітаслаўскаму. Назва маёнтка Бальбінова паходзіла ад імя яго жонкі Бальбіны. Чыгуначная станцыя таксама знаходзілася на тэрыторыі маёнтка, а таму і ёй была дадзена назва Бальбінова.

Да 1918 года Бальбінова і ўся зямля наўкола ўваходзіла ў састаў Віцебскай губерні. Пасля 1920 года, калі былі ўстаноўлены межы Латвіі, Бальбінова і ўсё яго наваколле ўвайшлі ў састаў Дзвінскага (Даўгаўпілскага) павета. Станцыя Бальбінова была збудавана разам з Рыга-Арлоўскай чыгункай, якая была праведзена ў 1870-х гадах. Пасля 1920 года станцыю Бальбінова назвалі Індрай у сувязі з тым, што недалёка ад станцыі працякае рака Індра, якую называюць яшчэ і Індрыцай. Будынак станцыі Індра быў прыгожы. Двухпавярховы цагельны дом выдзяляўся сярод звычайных вясковых хатак. Наўкола станцыі раслі дэкаратыўныя кустарнікі, на клумбах-лехах цвіцелі прыгожыя ружы і іншыя кветкі, поўныя чароўных пахаў. Побач стаяў двухпавярховы драўляны дом для адпачынку кандуктараў. (Зараз у ім знаходзіцца станцыя, і жывуць людзі). У часе Вялікай Айчыннай вайны будынак станцыі быў узарваны немцамі. Яшчэ ў 1917 годзе былі спалены палацы пана Нітаслаўскага (мармуровыя калоны яшчэ доўга стаялі, напамінаючы аб прошлым. Іх разабралі ў 1971 годзе. На іх месцы збудавалі клуб і кантору калгаса імя Фрунзе).

Пасля 1920 года Індра пачала разрастацца. Насельніцтва займалася земляробствам. Сеялі многа лёну. Дарогі былі больш сухапутныя. Сяляне сабіраліся абозамі і ехалі ў Рыгу прадаваць лён.

Не маючы сваёй, мае бацькі арандавалі зямлю ў паноў. Спачатку на Другім Чорным, пазней у Зялёншчыне, Савейках, Гірынях, Ізаве. Часта прыходзілася пераязджаць з аднаго месца ў другое. Вядома — арандатары.

Калі жылі ў Гірынях, нашу сям'ю аграбілі белапалякі. Прыехалі на падводах і ўсё забралі — як ежу, так і адзежу. Брат Янка ў той час ляжаў хворы. З яго садралі апошнюю коўдру. Ён прастудзіўся і вельмі напалохаўся, пасля чаго хутка памёр. Забіраючы апошнюю адзежу і вымятаючы з засекаў збожжа, палякі, спяшаючыся, крычалі адзін на другога: «Бойся бога, дзеля ранаў Хрыста, хутчэй забірай!» Гэтыя словы людзей, сэрцы каторых закамянелі ў злосці і згубілі чалавечыя пачуцці, яшчэ і сёння не забыліся.

Пасля аграблення мы пераехалі ў Ізава, дзе стаяла вялікая абора для жывёлы і маленькая хатка для пастуха. Ля хаты былі возера і маленькі садок. Зноў арэнда, зноў праца на паноў, ад усходу і да заходу сонца.

Настаў час, калі мне з братам трэба было вучыцца. Школа ад Ізава, дзе мы жылі, знаходзілася за 4—5 вёрст. Дарогі да школы не было. Ды і ў школах таго часу вучылі толькі чытаць, пісаць і лічыць. Тое, што вучылі ў такой школе, мы ведалі. Нас навучыла старэйшая сястра. Хадзілі мы на заняткі ўсяго некалькі дзён. Бацька паглядзеў на нашу вучобу і сказаў, што хадзіць і рваць абутак не варта. Парадзіўшыся з сям'ёй, назаўтра, у восені 1922 года, бацька адвёз нас у Дзвінск. У якую школу нас паслаць, ён і сам яшчэ добра не ведаў. Кватэру бацька знайшоў у знаёмых, дачка якіх, майго ўзросту, вучылася ў польскай школе. У польскую, відаць, бацьку не хацелася нас аддаваць. Ён пайшоў у горад аглядаць школы. Спыніўся супроць беларускай гімназіі, на Варшаўскай, 16. Глядзеў на будынак, чытаў шыльду. У гэты момант выйшаў дырэктар гімназіі, запытаўся ў бацькі, каго ён шукае. Разгаварыліся. Дырэктар усё бацьку растлумачыў, і назаўтра мы ўжо вучыліся ў беларускай пачатковай школе. Пазней з Індры, Пустыні, Прыдруйшчыны ўсе паступалі толькі ў беларускую школу.

Уваходзячы ўпершыню ў школьны будынак, я ўбачыла малюнак на сцяне лесвічнай пляцоўкі, на якім было намалявана ўзыходзячае сонца з надпісам унізе: «Загляне сонца і ў нашае ваконца». І сонца сапраўды пачало заглядаць у нашыя вокны, саграваць нашы сэрцы, асвятляць розум, дапамагаючы пазнаваць праўду, гартаваць нашы душы.

Кіраўніком пачатковай школы быў Якубецкі Андрэй Паўлавіч. Ён быў малады, высокі, стройны, прыгожы, добры і разумны. Многа радасці дарыў нам на пераменах, гуляючы з намі ў снежкі, прыдумваючы розныя варыянты гульняў. Арганізоўваў экскурсіі. Звяртаў нашу ўвагу на прыгоства прыроды, на яе фауну і флору. Расказваў пра Белавежскую пушчу. Вучыў любіць беларускую мову, падкрэсліваў яе гібкасць, пявучасць. Чытаў вершы беларускіх пісьменнікаў, паказваючы магчымасць выказваць свае думкі ў роднай мове. Як маладым дрэўцам, прывіваў ён нам любоў да роднага краю. Асабліва сачыў за жыццём тых вучняў, якія былі з далёкіх вёсак і жылі без бацькоў. Андрэй Паўлавіч быў вельмі чалавечны, і мы яго любілі.

Так праходзілі дні і гады вучобы ў беларускай пачатковай школе. Мы раслі, мужнелі, пазнавалі жыццё. Фарміраваліся нашы погляды. У 1925—26 навучальным годзе, калі я прыехала пасля летніх канікулаў у школу, Якубецкага ўжо не было. Не было ў гімназіі і Краскоўскага, Пігулеўскага, Мядзёлкі. Усе яны былі арыштаваны, выпушчаны пад заклад, але не працавалі. Іх абвінавацілі ў тым, што нібы яны прымалі ўдзел у злачынным таварystве ў Латгаліі, якое ставіла сваёй мэтай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага паветаў і далучыць іх да Беларускай дзяржавы. 2 красавіка 1925 года адбыўся судовы працэс, які быў сфабрыкаваны. Ніякага злачыннага таварыства ў Латгаліі не было. Усе падсудныя былі апраўданы. Пасля гэтага Краскоўскі Іван Ігнатавіч і Мядзёлка Паўліна Вінцэнтаўна пакінулі межы Латвіі. Пігулеўскі Уладзімір Васільевіч і Якубецкі Андрэй Паўлавіч, якія атрымалі латвійскае грамадзянства, засталіся працаваць у Латвіі. Якубецкі быў выкладчыкам беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі ў Дзвінскай гімназіі. Так я зноў спаткалася з Якубецкім, лекцыі якога былі адпачынкам, бо праходзілі вельмі цікава.

У 1922 годзе ў Латвіі праводзілася зямельная рэформа. Многія беззямельныя сяляне атрымалі ад дзяржавы зямлю — хутары. Цягнулі жэрабя. На долю бацькі такога шчасця не выпала. Зямлю канфіскавалі ў паноў і надзялялі беззямельных, пакідаючы панам надзел зямлі свайго маёнтку. Такой пастановай паны былі не задаволены. Яны пачалі прадаваць выдзеленыя ім надзелы сялянам, а самі выязджаць у гарады або за граніцу. Беззямельным сялянам, якія не атрымалі надзелу ад дзяржавы, давалася пазыка на куплю зямлі, каторую можна было выплачваць на працягу 15—20 гадоў.

Арандаваць зямлю ўжо не было ў каго. Бацька купіў частку зямлі ў Савейках ад пана Зайкоўскага, за якую выплачваў у Латвійскі банк з 1922 па 1939 гады. Працаваць было цяжка: усё ўручную. Кожнай восенню мы з братам на месяц, а то і на больш спазняліся ў школу. Трэба было сабраць з поля ўраджай. Прыехаўшы ў школу, на працягу дзесяці дзён патрэбна было дагнаць клясу. І мы даганялі, вучыліся з ахвотай, спадзеючыся на лепшую будучыню.

Падручнікі купіць было таксама цяжка, не было грошай. Выручала дачка дырэктара Галіна Сахарава, з якой мы дружылі. Наогул, вучні беларускай школы ўсе жылі дружна і ніколі не адмаўлялі пазычыць кнігу на некалькі гадзін.

На зімовыя канікулы спяшаліся дамоў. Нас ужо чакалі, трэба было малаціць сабраны ўраджай. І так увесь час, усе школьныя гады.

Закончыўшы пачатковую, шасціклясную школу, я вытрымала экзамен у 7-ю падрыхтоўчую клясу гімназіі. Радасная, поўная бадзёрасці і энтузіязму, прыехала да бацькоў. Тут мне цяпер здавалася ўсё лепшым і прыгажэйшым. Сад, возера, лугі, лясы, спеў птушак вабілі сваім прыгоствам, давалі надзею на лепшае, цікавейшае жыццё.

(Працяг будзе).



Будынак беларускай гімназіі ў Дзвінску.

[1] Зараз пішацца: Жыгулі (тут і далей заўвагі С. Панізьніка).

ДА 100-гадовага ЮБІЛЕЮ ПІСЬМЕННІЦЫ Зоські ВЕРАС

# З АЎТАБІЯГРАФІІ

Радзілася я 30 верасня 1892 года ў мястэчку Мяджыбаж, паміж двума Бугамі-рэкамі, Падольскай губерні Лятычаўскага павету, г. зн. на Украіне, цяпер Житомірская вобласць, у сям'і вайсковага. Бацька мой, Антон Сівіцкі, паходзіў з Гродна, маці, Эмілія, з Садоўскіх з Сакольскага павету, дзе яе бацькі мелі невялікі фальварак Альхоўнікі.

Ад наймалодшых гадоў кожнае лета я з маткай праводзіла ў Сакольшчыне, наведваючы часта і дзядоў у Гродне. Хоць у доме гаварылі па-польску, бацька мой палякам сябе не лічыў. Лічыў сябе «літвіном» у тым значэнні, як Адам Міцкевіч лічыў сваю бацькаўшчыну Літвой.

З улюбёнымі паэтамі бацькі А. Міцкевічам і У. Сыракомляй я пазнаёмілася, маючы 10 гадоў. Тады, помню, седзячы на сходках ганку, чытала «Пана Тадэвуша». У гэтым самым часе бацьку на імяніны навучылася вынятак твору У. Сыракомлі (дванаццаць старонак друку). Агульнага назову твору не помню.

Паэзія, знаёмства з прыродай, туга па роднай Гродзеншчыне — усё гэта ўзгадавалі ў маёй душы бацькі. Маючы 9—10 гадоў, пачала пісаць апавяданні і вершы... наіўныя, дзяцінныя. Першапачаткова бацькі вучылі мяне самі. Усяго, з музыкай уключна. Толькі ў 1904 годзе маці выехала са мной у Кіеў, дзе я паступіла ў прыватную гандлёвую школу — Прыватнае камерцыйнае вучылішча Людмілы Мікалаеўны Валадкевіч. Гэта была школа ў тыя часы хіба самая прагрэсіўная ў Расіі. Багатая бібліятэка з кніжкамі на розных мовах, кабінеты фізыкі, хіміі, біялёгіі, фатаграфічныя лабараторыі. Абавязковыя мовы нямецкая і французская (ясна, па-за расейскай), неабавязковыя ангельская і польская. Пачынаючы з трэцяга класа,— клясовы часапіс. Шматлікія экскурсіі, на якіх фактычна і праводзіліся лекцыі батанікі. Гурткі: літаратурны, біялёгічны і г. д.

Вось тады ўжо ў школе зарадзілася ў мяне зацікаўленьне літаратурай і батанікай.

У 1906 годзе летам першы раз трапілі мне ў рукі «Наша ніва», «Дудка беларуская» і «Смык».

Наскольні яны мяне ўразілі і спадабаліся, відаць з таго, што ў клясовай працы з польскай мовы я старалася выясніць розніцу між літвінамі і беларусамі і прыводзіла як доказ асобнай беларускай мовы «Нашу ніву», «Дудку» і «Смык». Разумееце, зроблена гэта было па-дзіцячаму. А ўсё ж...

На жаль, навука ў гэтай школе, якая пакінула ў маёй псіхіцы немалы след, нечакана абарвалася.

У 1907 годзе ў лістападзе памёр раптоўна мой бацька. Аставацца надалей у Кіеве нам з маці не хацелася. Цягнула да сваіх. Я скончыла вясной 1908 года чацвёртую клясу, і мы выехалі ў Гродзеншчыну. У 1909 годзе я паступала ў 6-ю клясу прыватнай жаночай гімназіі Е. Баркоўскай. Праграма гэтай гімназіі больш адпавядала праграме кіеўскай школы, чым у дзяржаўных гімназіях.

У тым жа 1909 годзе ўвосені я стала на тую сцежку, па якой ішла праз усё далейшае жыццё. Менавіта ўвосені 1909 года арганізаваўся «Горадзенскі гурток беларускай моладзі». Адразу, на арганізацыйным сходзе, мяне выбралі бібліятэкарам гуртка. З гэтай прычыны завязалася карэспандэнцыя з Віленскай беларускай кнігарняй, рэдакцыяй «Нашай нівы», суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца», а пазней і асабістае знаёмства з віленскімі беларусамі. Паміж іншым, Іван Саламевіч знайшоў у архівах «Нашай нівы» мае лісты з таго часу.

У 1912 годзе я скончыла гімназію, а ў 1913 выехала ў Варшаву на 10-месячныя курсы «Агародніцтва, садаўніцтва і пчалярства». Узяцца за даўжэйшую і саліднейшую навуку не пазваляла здароўе.

Яшчэ ў 1912—13 гадах я пачала складаць «Батанічны зельнік», ставячы на першае месца назовы раслін у беларускай мове. Падчас вайны (першай сусветнай) зельнік прапаў, але запісаныя назовы засталіся.

Скончыўшы курсы 1-га ліпеня 1914 года, я атрымала пасьведчанне «аб'яздовага інструктара» і мела намер адбыць яшчэ хоць бы аднагадовую практыку. Але пачалася першая сусьветная вайна. Выехаць нікуды не змагла і практыку адбывала ў свайго дзеда, замілаванага садаўніка і пчаляра. Ён, паміж іншым, вучыўся пчалярству ў Варшаве ў пчаляра Лявіцкага, іменем якога названы рамовы вулей яго ж канструкцыі.

У вольны час далей запісвала назовы раслін, да таго песні, загадкі, прыпеўкі.

У жніўні 1915 года я разам з маткай выехала ў Менск. Там працавала ў «Камітэце таварыства помачы ахвярам вайны» і іншых арганізацыях (у Беларускім нацыянальным камітэце, у цэнтральнай радзе беларускіх арганізацый, у Вялікай беларускай радзе, у Беларускай сацыялістычнай грамадзе), усюды сакратаркай. Найбольш працавала ў Таварыстве помачы ахвярам вайны (дарэчы, мая маці таксама). У якой ролі, цяжкавата акрэсліць, бо мая праца мянялася часта: была там, дзе была якраз патрэбная. Менш больш так: загадчыцай сталовак, пасля загадчыцай дзіцячага прытулку, загадчыцай ткацкай працоўні, скарбнікам, сакратаром і г. д. Мела таксама працу ў сваім фаху, бо Камітэт помачы ахвярам вайны правёў 6-тыднёвыя (45 дзён) курсы агародніцтва і пчалярства для бежанцаў. Лекцыі вяліся па-беларуску, а дазвол на курсы быў выданы Міністэрствам земляробства.

У 1918 годзе пад восень вярнулася ў Гродзеншчыну. Пяць гадоў пражыла ў дзедаўскім фальварку (дзеда ўжо не было) Альхоўніках. Тады далей апрацоўвала Батанічны слоўнік (быў выданы ў 1924 годзе рэдакцыяй газеты «Голас беларуса») і супольна з украінцам аграномам Міхалам Бароўскім кніжку «Медадайныя расліны». Украінец пісаў па-ўкраінску, я — па-беларуску. Толькі доля нашай працы была неаднолькавая. Ён скончыў і выдаў у Львове сваю кніжку багата ілюстраваную, а мая работа друкавалася пакрысе на старонках «Беларускай борці». І то не ўся.

У канцы 1[illegible]3 года я ўжо настала ў Вільні.

Адразу засадзілі мяне адміністраторкай грамадаўскіх газэт на Віленскай, 12. У вольны ад сваёй працы час я ў 1927 годзе пачала рэдагаваць і выдаваць дзіцячую часапісь «Заранка», а таксама «Гаспадарчы дадатак» да газэтаў (раз у месяц).

У 1928 годзе арганізуецца Беларускае каапэратыўнае таварыства «Пчала» — таварыства з абмежаванай адказнасьцю. Выбіраюць мяне старшынёй. У 1934 годзе таварыства «Пчала» пачынае выдаваць свой орган «Беларуская борць» пад маёй рэдакцыяй. У 1935 годзе таварыства «Пчала» арганізуе завочныя курсы па збору медадайна-лекарскіх і лекарскіх зёлак. Гэтыя курсы апрацоўваем удваіх са студэнтам-медыкам В. Тумашам.

Нядоўга трывае час дзейнасьці. У 1931 годзе гасьне «Заранка». У 1938 годзе перастае выходзіць «Беларуская борць». Зачыняецца таварыства «Пчала».

Наступае некалькі гадоў нейкага духовага летаргічнага сну...

А пасьля мяне «разбудзілі», намовілі пісаць успаміны. Разбудзіў мяне Арсень Сяргеевіч Ліс.

У 1977 годзе ўспаміны скончаны.

Знаёмства з сучаснымі беларускімі пісьменнікамі, карэспандэнцыя з імі. Час ад часу ўдаецца пераслаць нейкую патрэбную вестку...

Так канчаецца жыццё...

Трэба дадаць, што мае дробныя працы друкаваліся: у 1911—1913 гадах у «Нашай ніве», пад псеўданімам Мірко «Песьня сіраты», «Ветру», «Дайце мне памяць людзкую»; у «Вольнай Беларусі» (Менск), «Нёману», «Толькі сон»; у дваццатыя-трыццатыя гады ў «Студэнцкай думцы», у «Шляху моладзі», у кніжцы-зборніку «Наша праца» (Дзяржаўнае выдавецтва ў Львове, зборнік запраектаваны для двухмоўных школаў, год выдання 1937), у «Хрэстаматыі» І. Дварчаніна і, зразумела, у «Заранцы» і «Беларускай борці», некалькі гадоў у адрыўных календарах, дзе бывалі парады па агародніцтву, пчалярству, садаўніцтву і жаночай гаспадарцы.

Ляжаць рукапісы перакладў: «Палаючае сэрца Данка» М. Горкага, «Цыганка Аза» І. Крашэўскага.

Л. СІВІЦКАЯ-ВОЙЦІК
(Зоська ВЕРАС).



## КАМВАЛЕЯ

У маленькай, крывенькай хатцы пад лесам жыла са сваёю маткаю бедная маленькая дзяўчынка. Яна гуляла па зялёнай сенажаці разам з другімі дзяцьмі, пасьвіла жывіну, зьбірала краскі, слухала птушачыя песьні і, хоць бедная, заўсёды была вясёлая і шчаслівая. Але ж не доўга пажыла яна на белым сьвеці. Раз неяк захварэла і хутка памёрла, а дзякуючы таму, што была вельмі добрая, то зараз жэ пасьля сьмерці апынілася ў небі, сярод белых скрыдлатых анёлаў, сярод птушак райскіх. І пытаюцца ў яе анёлкі: «Ці не шкада табе, дзіцятко, тваёй хаткі ўбогай!» А яна ім адказвае: «Як жа я магла б шкадаваць сваёй хаткі, крывой ды маленькай, калі я цяпер жыву ў цудоўным небі!» Анёлкі ізноў пытаюцца: «А ці не сумуеш ты па дзецях, з каторымі гуляла, па кветак, што растуць на вашым лузі!» — «Чаго ж я мела б сумаваці па дзецях, калі тут з анёлкамі гуляю, ці па кветках, калі тут шмат пякнейшыя растуць наўкола». Наканец анёлкі пытаюцца: «А ці не шкадуеш ты сваёй мацяры, што там на зямлі так горка па табе плача-забіваецца!»

Успомніўшы сваю маму, дзяўчынка засмуцілася: сціснулася ёй сэрца, а з вачэй пасыпаліся дробныя сьлёзкі. Ды не сьлёзкамі яны на зямлю ўпалі, а зьявіліся ў густым лесі, побач матчынай хаткі, белымі пахучымі чарачкамі лесавой камвалеі.

Зоська ВЕРАС.

# ЯНА БЫЛА СІМВАЛАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У той жа год я наведала Людвіку Антонаўну, у выніку чаго ў «Голасе Радзімы» з'явіўся артыкул «У гасцях у Зоські Верас», бадай, першая больш-менш буйная публікацыя ў савецкім друку пра відную дзячку беларускага асветніцкага руху. Мяне, як і ўсіх, хто прыязджаў да Зоські Верас, уразіла яе натуральнасць, добразычлівасць, фенаменальная памяць і эрудзіраванасць. І можа, самым дзіўным і цудоўным было яе шчырае бескарыслівае жаданне падзяліцца ўсім, што ведала, што мела, з іншымі, каб яе кнігі, архівы, успаміны дайшлі да людзей, прыдаліся ім у працы ці проста дапамаглі лепш зразумець мінулае.

Атрымаўшы «Голас Радзімы» з артыкулам, Зоська Верас напісала: «...Сардэчна дзякую. Ёсць пару недакладнасцей, але гэта драбніцы. Вашая ласкавая ўвага да маёй асобы вартая падзякі. Прыемна мне было таксама пабачыць мае ўспаміны аб «Заранцы». Да гэтай пары яны нідзе не знаходзілі сабе месца».

Апошні раз я сустракалася з Зоськай Верас незадоўга да той зімы, калі згарэла лясная хатка і яе гаспадыня перасялілася ў горад. Яна з радасцю расказала, што ў яе становіцца ўсё больш і больш знаёмых і ў Мінску, і ў Гродне. Казала, што нядаўна пазнаёмілася з пісьменніцай Хрысцінай Лялько і яе мужам, што вельмі рада сустрэчы, бо адчувае нешта роднае ў гэтай прыгожай маладой жанчыне. Расказвала, што парадамі дапамагае вучням Гудзевіцкай школы, якія ствараюць у ёй этнаграфічны музей. Паскардзілася, што да гэтага часу не выдадзены беларускі зёльнік. Сама ж, падышоўшы да старыннай шафкі, паказала слоікі з засушанымі раслінамі.

— Гэта святаяннік,— узяла адзін з іх.— Надзвычай карысная расліна. Ведаеце, што такое святаяннік?

Засушаная зёлка была такой яркай, што здавалася толькі што сарванай у полі. Зоська Верас ведала таямніцы раслін — травы, кветак і дрэў, любіла зямлю і ўсю жывую прыроду, з якіх чэрпала сілы, якія жывілі яе даўгалецце.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.



# ЯНА НАРАДЗІЛАСЯ, КАЛІ ЦВІТУЦЬ ВЕРАСЫ

ЗОСЬКА Верас (Людвіка Антонаўна Войцік) была актыўнай удзельніцай беларускага адраджэння на пачатку стагоддзя, стаяла ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Яна асабіста ведала Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулю, Ядвігіна Ш. і братоў Луцкевічаў, Язэпа Дылу і Язэпа Лёсіка, заснавальнікаў беларускага тэатра Уладзіслава Галубка і Усевалада Фальскага, Ігната Дварчаніна і многіх іншых вядомых дзеячаў беларускай культуры. Яшчэ ў 1911 годзе яе вершы «Песня сіраты», «Ветру», апавяданне «Дайце мне прыязнь людскую» былі надрукаваны ў «Нашай ніве». Экслібрыс Зоські Верас упрыгожваюць віленская вежа Гедыміна і два касцёлы—гарадзенскі Фарны і менскі Чырвоны. Насупраць Фарнага касцёла ў Гародні ў былым доме Стэфана Баторыя знаходзілася прыватная жаночая гімназія, у якой вучылася Людвіка Сівіцкая (Сівіцкая — дзявочае прозвішча Зоські Верас). Яна адна з заснавальнікаў і кіраўнікоў Гарадзенскага культурна - асветніцкага гуртка беларускай моладзі, створанага ў 1909 годзе. Гурток аб'яднаў хлопцаў і дзяўчат, сэрцы якіх саграваля беларуская нацыянальная ідэя. Наўкос ад Чырвонага касцёла ў Менску знаходзіўся клуб творчай інтэлігенцыі «Беларуская хатка», дзе ў 1916—1917 гадах працавала сакратаром Мінскага аддзела Таварыства дапамогі ахвярам вайны Людвіка Антонаўна. Гэта быў, па сутнасці, штаб беларускага адраджэнчаскага руху. З 1923 года да апошняга дня Зоська Верас жыла ў Вільні, над якой высіцца вежа князя-язычніка Гедыміна. Глінабітная, пад саламяным дахам лясная хатка пісьменніцы на ўскраіне Вільні была своеасаблівым асяродкам беларускай культуры, куды ехалі «з усяго свету» краязнаўцы і гісторыкі, пісьменнікі і журналісты, мастакі і настаўнікі, студэнты і вучні. Шчодра дзялілася з імі Зоська Верас успамінамі і ведамі. Людвіка Антонаўна мела фенаменальную памяць і унікальны архіў, які знаходзіцца зараз у Цэнтральным архіве - музеі літаратуры і мастацтва Беларусі.

З Людвікай Антонаўнай я пазнаёміўся напярэдадні яе 90-годдзя — напрыканцы жніўня 1982 года. Мы сядзелі ў яе лясной хатцы. Я запісваў пытанні ў агульны сшытак, і Зоська Верас давала на іх грунтоўныя і падрабязныя адказы. Я пільна ўглядаўся ў яе ясныя ўсмешлівыя вочы, як быццам мог у іх убачыць адлюстраванні тых людзей, якіх блізка ведала Зоська Верас. Ніводнай сівой валасінкі не было ў Людвікі Антонаўны. Час ад часу яна заходзіла ў сваю спаленку, ля ўваходу ў якую вісеў малюнак Івана Пратасені «Максім Багдановіч і Зоська Верас у Менску», і вярталася адтуль то з фотаздымкам прыгожай і гнуткай гімназісткі Людвікі Сівіцкай, то з афіцыйным пісьмом Максіма Багдановіча менскаму губернатару, то з пажаўцелымі нумарамі «Заранкі» і «Беларускай борці». Тады ж Зоська Верас паказала мне састаўлены паводле яе ўспамінаў план дома ў Менску, дзе ў 1916—1917 гадах жылі Змітрок Бядуля з сёстрамі-«бедулянкамі», Максім Багдановіч, Людвіка Сівіцкая і яе маці. На жаль, памяць Людвіку Антонаўну на гэты раз падвяла. План меў недакладнасці. Я некалькі разоў быў у гэтым доме і нядрэнна ведаў яго планіроўку. Сказаў пра гэта Зосьцы Верас і паабяцаў прыслаць падрабязны план дома. У хуткім часе я выканаў сваё абяцанне. Так пачалася наша перапіска. Людвіка Антонаўна была абавязковым чалавекам і адказвала на кожны ліст, на кожную паштоўку. Адказвала нават тады, калі амаль поўнасцю страціла зрок.

Зоська Верас жыла ў штодзённым клопаце пра росквіт беларускай культуры і пільна сачыла за духоўным жыццём Беларусі. Яна шанавала як прызнаных майстроў беларускай культуры, так і пачаткоўцаў. Мяне шчыра здзівіла шкадаванне Людвікі Антонаўны, што не чытала маіх «лётнічых» твораў. «Аказваецца, як мала я ведаю», — пісала яна ў сувязі з гэтым. Ці не прыклад гэта для некаторых пыхлівых прадстаўнікоў нашай літаратурнай змены, якія, акрамя сябе, не хочуць нікога прызнаваць?

Працавітая і руплівая, як пчала (мо таму яна і жыла доўга), Зоська Верас да глыбокай старасці працавала на сваіх «дзялках». І рабіла яна гэта прафесійна, бо ў 1914 годзе скончыла ў Варшаве курсы агародніцтва, салаводства і пчалярства, а з 1928 года была старшынёй Беларускага кааператыўнага пчалярскага таварыства «Пчала». У яе цяпліцах спелі памідоры, кавуны, крамянелі гуркі. Ля дзвярэй у хату раслі вінаград і абрыкосавае дрэва. Вельмі любіла Людвіка Антонаўна кветкі.

— Яны ў нас як ад вясны пачнуць, дык да марозу цвітуць і цвітуць, — гаварыла мне Зоська Верас, абрываючы завялыя пялёсткі на ружы, прывезенай з Карпілаўкі, дзе некалі жыў Ядвігін Ш.

На вялікі жаль, ужо няма ні самой Зоські Верас, ні яе лясной хаткі. Спачатку згарэла хатка, а 8 кастрычніка мінулага года на сотым годзе жыцця не стала і самой Зоські Верас. Яна нарадзілася і памерла, калі цвітуць верасы. На каталіцкіх могілках у Верхніх Панарах ля дарогі з Вільні ў Коўна знайшла свой апошні прытулак нястомная бескарыслівая руплїўка—«нашаніўка», як называла часам сябе пісьменніца. Адцвілі і больш не зацвітуць яе добрыя гарэзлівыя блакітныя вочы. Ніколі ўжо я не атрымаю з Вільні пісьмо, у канцы якога будзе напісана: шчыра зычлівая або шчыра прыязная Л. Войцік. А я ж некалі загадаў: дажыве Зоська Верас да свайго векавога юбілею — будзе вечна жыць Беларусь. Няўжо намаганні не аднаго пакалення беларускай інтэлігенцыі марныя? Няўжо беларускі адраджэнчаскі рух асядлаюць карыслівыя людзі, выпадковыя яго спадарожнікі — спадары, гатовыя закрэсліць усё, што было да іх? Няўжо запаветныя мары Зоські Верас разаб'юцца аб «талерантнасць» народа, дзеля якога яна жыла? Хочацца верыць у лепшае.

**Уладзімір СКАРЫНКІН.**

# МЫ ДОЎГА СЯБРАВАЛІ

Ад 1-га верасня 1926 года я знаходзіўся ў ссылцы на Паможы, у г. Сьвеце-над-Віслай, куды мяне на 5 гадоў асудзіў польскі панскі суд.

Сакавік 1927 году. Я атрымаў з Вільні бандэроль, у якой аказаўся пробны першы нумар часопісі для беларускіх дзяцей «Заранка», які рэдагавала і выдавала беларуская пісьменніца Людвіка Войцікава (Зоська Верас). Гэта яна прыслала мне «Заранку».

З трэцяга нумару я пачаў супрацоўнічаць у «Заранцы»: пасылаў у рэдакцыю свае вершы, апавяданьні, песьні, жарты, малюнкі, вокладку, лісты да чытачоў, падпісваючы свае творы псеўданімам «Малады Дзядок». З рэдактаркай «Заранкі» наладзілася сталая перапіска, хоць асабіста з ёю я ня быў знаёмы.

24 ліпеня 1927 году я нелегальна прыехаў з ссылкі ў Вільню. Быў сонечны ліпеньскі дзень. Свае крокі я накіраваў на вуліцу Віленскую, 12, кв. 6, дзе мясцілася рэдакцыя «Заранкі». Я пастукаў у дзьверы. Жаночы голас адказаў: «Калі ласка!» Я ўвайшоў у маленькі пакойчык. За сталом сядзела жанчына, а насупраць — мужчына, які складаў газеты. Я здагадаўся, што жанчына гэта і ёсць рэдактар-выдавец «Заранкі» Людвіка Антонаўна Войцік (Зоська Верас).

— Добры дзень! — прывітаўся я.

— Добры дзень! — адказала жанчына і прыўзнялася з крэсла.

— Я Новік! — назваўся я.

Жанчына маўчала.

Тады я дадаў:

— Я — «Малады Дзядок»!

— А я думала ізноў шпік! Бо толькі што арыштавалі майго мужа і забралі разам са сканфіскаванай газетай.

Мы прывіталіся.

Людвіка Антонаўна сказала:

— Я вас замкну, а сама панясу мужу ў астрог на Лукішкі падушку і паесьці. А вы пакуль пачытайце лісты ад дзяцей. — І жартам дадала: — Мне нават крыўдна, што чытачы ўжо пішуць лісты не да мяне, а да «Маладога Дзядка».

Людвіка Антонаўна завяла мяне ў суседні, яшчэ меншы пакойчык і паклала на стол цэлы стос лістоў і малюнкаў, а сама разам з мужчынам выйшла і замкнула на ключ уваходныя дзьверы.

Я стаў чытаць лісты, напісаныя да мяне ад Сярожы Пастушка (Сяргея Крыўца) і ягоныя вершы, ад Марусі з Антокалю, Аксаны, Янкі Патаповіча, Мікалая Дылька, Марыі Ласька, Яўстафа Ваховіча і іншых.

А праз нейкі час вярнулася Людвіка Антонаўна і запрапанавала мне пайсьці ў друкарню Я. Левіна на вуліцу Нямецкую, № 22, дзе друкавалася «Заранка».

— Выходзіць 6-7-я кніжка, амаль уся ваша, дык вы самі зрабіце карэктуру, — сказала рэдактарка.

Мы прыйшлі ў друкарню, дзе нас сустрэў гаспадар друкарні Я. Левін.

Людвіка Антонаўна прадставіла мяне:

— Гэта наш супрацоўнік «Малады Дзядок».

— Вельмі прыемна! — сказаў Я. Левін. — Вось 6-7-я кніжка, амаль уся ваша: малюнак вокладкі, ліст да дзяцей, вершы, апавяданні, малюнкі, жарты.

І падаў мне гранкі «Заранкі». Я з прыемнасьцю ўзяў часопіс у ружовай вокладцы, прагледзеў, вярнуў гаспадару друкарні, разьвітаўся з ім і з рэдактаркай «Заранкі».



С. НОВІК-ПЯЮН і Зоська ВЕРАС.

Мне трэба было вяртацца на Паможа — месца маёй ссылкі. Увечары таго ж 24-га ліпеня 1927 году я пакінуў Вільню.

Супрацоўнічаў я ў «Заранцы» за ўвесь час яе існавання ад 3-е да апошняе кніжкі, ад 1927 па 1931-шы год.

За ўвесь час працягвалася мая перапіска з Зоськай Верас.

***

Мінула 50 гадоў ад дня маёй першай сустрэчы з рэдактаркай «Заранкі».

На працягу 30 гадоў мне давялося адпакутаваць у ссылках, астрогах, лагерох Польшчы, у лагеры сьмерці гітлераўцаў «Калдычэва», 15 гадоў на катарзе НКВД у Запалярнай Якуціі.

Людвіка Антонаўна праз Арсеня Ліса «адшукала» мяне ў Менску, і паміж намі ўзнавілася перапіска. 6-га чэрвеня 1977 году я наведаў Людвіку Антонаўну ў Вільні ў яе ўтульнай хатцы, якая стаяла на горцы ў лесе. Вакол хаткі розныя прыгожыя краскі, кусты, расьліны, дрэвы.

Мы ўспаміналі аб супольнай працы ў «Заранцы».

Людвіка Антонаўна вельмі шкадавала, што загінуў архіў «Заранкі», што яна не мае аніводнае кніжкі. Я пацешыў яе, што заснавальнік і шматгадовы навуковы супрацоўнік Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музею археолаг Стаброўскі Іосіф Іосіфавіч захаваў два камплекты «Заранкі», адзін я перадаў Зосьцы Верас. Яна была вельмі радая. Яна сказала:

— Пасьля «Заранкі» рэдагавала часопіс для беларускіх дзетак «Пралескі». Вось каб дзе дастаць хоць адзін лісточак!..

Я меў адзін камплект падшыўкі «Пралесак» за 1934/1935 гады і перадаў Зосьцы Верас. У «Пралесках» я зьмясціў народную казку, якую запісаў у родных Лявонавічах. Друкавала свае творы Зоська Верас у часопісі «Шлях моладзі» і ў газеце «Наша праца».

Людвіка Антонаўна Войцік (Зоська Верас) і Надзея Шнаркевіч, былы інструктар таварыства Беларускай школы, сабралі шмат фотаздымкаў аб прафесары Міхасю Забэйдзе-Суміцкім. Янка Шутовіч напісаў аб выдатным беларускім сьпеваку манаграфію. Лідзія Збралевіч, загадчыца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, паклапацілася зрабіць альбом, а Юлія Бібібіла спляла паясок да альбому, я аформіў гэты альбом, наклеіў фотаздымкі і тэксты пра Міхася Забэйду-Суміцкага. Таксама аформіў альбом аб гісторыі Віленскай беларускай гімназіі, Нясьвіжска-Клецкай беларускай гімназіі і Радашковіцкай беларускай гімназіі. Матэрыялы мне дасылалі Зоська Верас і Надзея Шнаркевіч. Зоська Верас мела арыгінальны почырк, і ня ўсе маглі ее прачытаць, я чытаў свабодна. Людвіка Антонаўна прыслала мне свае працы, якія я перапісаў на машынцы, зрабіў вокладкі.

Кожную працу я надрукаваў у 4-х паасобніках і ўсе адаслаў Зосьцы Верас у Вільню. Па адным паасобніку яна мне вярнула з удзячным надпісам.

Я хацеў зрабіць Зосьцы Верас прыемную неспадзеванку: сабраў яе творы з часопісаў «Заранка», «Пралескі» і «Шлях моладзі» ў адну кнігу і, калі яна была гатовая, напісаў ліст да Зоські Верас і спытаў, як назваць кнігу. Яна спытала ў мяне:

— А як вы думаеце?

Я ёй адказаў:

— А каб назваць «Каласкі». Кожнае дзіця знойдзе для сябе зярнятка.

Зосьцы Верас назоў спадабаўся.

У выдавецтве «Юнацтва» ў Менску ў 1985 годзе выйшла кніга Зоські Верас «Каласкі». Мне Зоська Верас прыслала два паасобнікі сваёй кнігі, на адным яна напісала:

«Дарагому Сяргею Міхайлавічу Новіку-Пяюну... Нічога для сябе новага хіба тут ня знойдзеце, але немалая Вашая заслуга ў тым, што гэта выйшла ў сьвет пад аднэй стрэшкай... Дзякую Вам — З. Верас», а на другім гэтак: «Са шчырай удзячнасьцю за дапамогу і ініцыятыву сабраць усе мае дробныя творы пад «адну стрэшку», з чаго і паўстаў гэты зборнічак. На памятку нашага доўгага знаёмства аўтарка З. Верас (Л. Войцікава) 1985 г. Вільня».

Я сустракаўся з Зоськай Верас 5 разоў. Апошні — 30 верасьня 1989 году. Хоць пісьменніца страціла слых і зрок, мне яна сказала:

— Я вас пазнала! Мы даўно сябруем!

7-га кастрычніка 1991 году Зоські Верас ня стала, яна не дачакалася свайго 100-годдзя.

**Сяргей НОВІК-ПЯЮН.**

*МЭТА АЛЯКСАНДРА КУРЛОВІЧА*

# НА ВЯРШЫНІ СЛАВЫ

Як зараз, памятаю рэпартажы з сеульскай Алімпіяды. Заканчвалі барацьбу цяжкаатлеты. Чарговы медаль у скарбонку каманды ўнёс Аляксандр Курловіч. Выйграў ва ўсіх сапернікаў упэўнена, пры гэтым устанавіў новы рэкорд Гульняў.

Буйным планам паказалі твар Аляксандра. І мне здалося, што ён чымсьці незадаволены: не было ў нашага земляка той радасці, якая б літаральна біла цераз край, як у іншых алімпійскіх чэмпіёнаў.

Я не памыліўся. Раз за разам з'яўляліся інтэрв'ю спартыўных журналістаў на старонках газет, на радыё і тэлебачанні, вялася размова аб тых сеульскіх стартах, і ва ўсіх іх наш асілак скардзіўся на... сапернікаў.

— Падняцца на вышэйшую алімпійскую прыступку гонару, вядома, прыемна. Але поўнае задавальненне ад перамогі я адчуваю толькі тады, калі яна заваявана ў вельмі напружанай барацьбе, —зазначаў Аляксандр Курловіч. — У Сеуле ж гэтых сапернікаў я не бачыў.

Гэта было не выхвалянне. Калі цяжкаатлет на спаборніцтвах падымае на некалькі дзесяткаў кілаграмаў больш, чым працўнік, то хіба гэта не доказ яўнай перавагі?!. Адно засмучала: не атрымалася вочнага паядынку з вечным канкурэнтам і земляком Леанідам Тараненкам, бо ён захварэў.

Двое з адной каманды. Самыя моцныя людзі на зямлі. Спачатку на вяршыні славы быў Тараненка: што ні спаборніцтва, то першае месца ды яшчэ і з сусветным рэкордам. Потым настала чарга Курловіча.

Шлях у вялікі спорт у яго быў больш складаным, чым у многіх іншых. Можа ніколі і не стаў бы чэмпіёнам, каб не брат Мікалай. Той ледзь не сілай зацягнуў Аляксандра на заняткі цяжкай атлетыкай.

І не толькі барацьбу за кілаграмы прыйшлося вытрымаць Курловічу. Інтрыгі скандальныя гісторыі, закулісныя падтасоўкі трэнераў — каго хочаш маглі прымусіць пакінуць спорт, перайсці на спакойнае жыццё. Толькі не Курловіча. Хаця і ў яго часам не хапала цярпення. І ў інтэрв'ю з журналістамі наш зямляк рабіў слушныя крытычныя заўвагі. Накшталт таго, што ў былым Саюзе няправільна вядзецца падрыхтоўка маладых спартсменаў: «Адкуль быць новым цяжкаатлетам, калі ўжо на першым часе ўваходу іх у «вялікі спорт» трэнеры патрабуюць ад сваіх выхаванцаў толькі рэкордаў, толькі перамог. Адсюль — траўмы фізічныя, маральныя, празмерныя для неакрэплага арганізма нагрузкі». Ці: «Мала таго, што ў зборную трэнеры бяруць не заўжды самых моцных цяжкаатлетаў, дык яшчэ ствараюць у камандзе непрыязную, складаную абстаноўку. Гэта не стымулюе, а перашкаджае выступленню спартсменаў». Менавіта такога папроку, лічыць Курловіч, заслугоўвае і цяперашні трэнер зборнай СНД В. Аляксееў.



Так было, так ёсць. Бо і ў наш час спорт не адышоў яшчэ ад палітыкі, многае залежыць ад асобных капрызных людзей: «зверху» націснуць — чуецца ў адказ: «Ёсць, будзе выканана».

Але так не павінна быць. Перамены намячаюцца сур'ёзныя. Пасля чарговага трыумфу на Алімпіядзе ў Барселоне, калі Аляксандр ізноў даказаў сваю перавагу над усімі сапернікамі і заваяваў залаты медаль, стала канчаткова вядома, што на наступных Гульнях каманда Рэспублікі Беларусь будзе выступаць асобнай дружынай.

Якія ж планы ў двухразовага алімпійскага чэмпіёна? Наш спартсмен знаходзіцца ў росквіце сіл. Кідаць выступленні не думае. Марыць стаць трохразовым алімпійскім чэмпіёнам. Сярод беларускіх спартсменаў такое ўдавалася толькі барцу Аляксандру Мядзведзю.

У рэспубліцы, лічыць Курловіч, нямала выдатных цяжкаатлетаў. Ды і трэнераў не бракуе. Ёсць усе магчымасці на чарговых Гульнях скласці сур'ёзную канкурэнцыю камандам Расіі, Балгарыі і іншых краін, якія сёння з'яўляюцца лідэрамі цяжкай атлетыкі.

**Я. ІВАНОЎ.**



**Прырода заўжды бярэ сваё. Ніводнага грыба ўлетку: стаяла спякота, дык верасень, калі прайшлі дажджы, нібы тыя зоркі на небе, «рассыпаў» па лясах і баравікі, і падасінавікі, і лісічкі... Збіраць бы нам іх ды радавацца. Але сёлета не кожны адважыцца пайсці на «ціхае паляванне». Бо тая ж прырода паднесла нам і непрыемныя сюрпрызы.**

**Спачатку з Расіі, з Варонежскай вобласці, потым з Малдавіі прыйшлі трывожныя весткі: пры ўжыванні ў ежу грыбоў адбылося атручэнне людзей. Потым такія ж выпадкі і ў нас, на Беларусі. Толькі своечасовае ўмяшанне медыкаў прадухіліла трагедыю. Вучоныя рэспублікі забілі трывогу, ад іх на старонках газет, па радыё і тэлебачанні пайшлі папярэджанні аматарам грыбоў.**

**Дык што: сёлета іх не збіраць! Хіба ўтрываеш, калі гэтулькі дароў у нашым лесе! Грыбы збіраць можна, сцвярджаюць вучоныя. Толькі трэба выконваць адпаведныя правілы. Яны простыя: кладзі ў свой кошык толькі тыя грыбы, якія добра ведаеш, а яшчэ не бяры старыя, старанна адвары...**

**НА ЗДЫМКУ: яго першы грыб.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## СУМУЮ ПА ТАБЕ

*Словы А. СТАВЕРА* *Музыка Н. МІКУЛІЧ*




**Прастор пазалотай заліты, —**
**Куды ні зірні — любата.**
**Красуе высокае жыта,**
**А ў сэрцы маім сумята.**

**Далёка мой любы, далёка...**
**Адна я ў чаканні стаю...**
**Мой птах закаханы, мой сокал,**
**Пачуй песню-споведзь маю.**

**Са мной ты быў добрым і мілым.**
**Мяне называў птушанём.**
**Я крыўду табе прычыніла,**
**Нібы апаліла агнём.**

**Душа мая ўся ператлела, —**
**Ну як я такое магла.**
**Я крыўдзіць цябе не хацела, —**
**З табой толькі шчырай была.**

**Я стану такой, як ты хочаш.**
**Хутчэй бы цябе мне спаткаць,**
**Сагрэць цёплай ласкай жаночай, —**
**Твае ўсе трывогі суняць.**

**Мой мілы, цябе як пабачу, —**
**Папрокі твае ўсе сцярплю,**
**Павер мне: каханнем гарачым**
**Я крыўду тваю спапялю.**

**Прастор пазалотай заліты, —**
**Куды ні зірні — любата.**
**Красуе высокае жыта, —**
**І згіне навек сумята!**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1718.
Падпісана да друку 28.09.1992.

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**